# Шлях Моладзі

# Šlach Moładzi

…„Падыймайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі."

ЯНКА КУПАЛА.



№ 14
(113)

Vilnia, 1 Listapada 1937 h.

Hod IX.

UVAHA! UVAHA!

20-ha listapada sioleta adbudziecca losavańnie

## cennych premijaŭ dla akuratnych padpiščykaŭ „Šlachu Moładzi"!

**Niabyvałaja akazija zusim darma vyjhrać hadzińnik, sekatar, nažy da ščapleńnia dreŭ, cennyja knižki i inš. rečy.**

Administracyja „šlachu Moładzi" pastanaviła sioleta vosieńniu raździalić miž akuratnych svaich padpiščykaŭ premii za ichniuju dbajnaść. Premii buduć padzieleny darohaj losavańnia, da jakoha buduć dapuščany tolki tyja padpiščyki, katoryja apłacili, abo jašče apłaciać da 15.XI.37, padpisku na „šlach Moładzi" za hety sioletni 1937 h. (usiaho tolki dva złoty).

### Śpis hałaŭniejšych premijaŭ:

1. Dobry hadzińnik na ruku.
2. Sekatar (nožnicy da abrazańnia halinak dreŭ).
3. 2 nažy da ščapleńnia dreŭ.
4. „Гісторыя (Беларускай) Крыўскай Кнігі" В. Ластоўскага, якая ў прадажы каштуе 10 зл.
5. „Пчолы" — кніга аб пчалаводзтве Пачопкі.
6. „Гісторыя Беларускай Літаратуры" М. Гарэцкага.
7. „Географія Беларусі" Смоліча.
8. „Хрыстаматыя Беларускай літаратуры" Дварчаніна.
9. Hramafonnaja plitka z biełaruskim narodnym tancam «Lavonicha» i z pieśniaj „A ŭ lesie, lesie" ŭ vykanańni słaŭnaha tenara M. Zabejdy-Sumickaha.
10. Partret biełaruskaha paeta M. Bahdanoviča.

**Dyk chto choča być u liku dapuščanych da losavańnia premijaŭ, niachaj zaraz pastarajecca apłacić padpisku. Chto-ž padpiski nie apłacić, toj nia budzie pryjmać udziełu ŭ losavańni i tamu vysyłka „šlachu Moładzi" budzie strymana!**

Treba pamiatać, što svaja presa, svaje časapisy, najlepš baroniać i infarmujuć. Tamu, biełarusy pavinny padtrymlivać svaju presu i pašyrać jaje, zdabyvajučy novych padpiščykaŭ. Biełaruskaja moładź pavinna pieradusim vypisvać i pašyrać „ŠLACH MOŁADZI"!

*Administracyja „Šlachu Moładzi."*


# „Шлях Моладзі"

ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЕ МОЛАДЗІ.

**Выходзіць: 1-га і 15-га кожнага месяца.**

Падпіска на 1 месяц 30 гр.; на 3 месяцы 75 гр., на паўгода — 1.50 зл., на цэлы год — 2 зл. і 50 гр.

Заграніцу — ўдвая даражэй.

ЦЭНЫ АБВЕСТАК: 1/1 бачына 50 зл., 1/2—25 зл., 1/4—15 зл., 1/8 — 8 зл.

**Адрыс Рэдакцыі:** Вільня (Wilno), Завальная вуліца № 1—2. [(ul. Zawalna 1—2).

№ kartateki przekaz. razachnk. 59.

# Шлях Моладзі

ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

Год IX. Вільня, 1 Лістапада 1937 г. № 14 (113).

*Міхась Машара*

## Песьня батрака

Пакасілі пожні,
зьнялі з ніў красу.
На возе апошнім, —
хочаш — падвязу.

Усё зьвязьлі у гумны —
сена і аўсы, —
дык чаго ты сумны,
ды чаму маўчыш?

Кажаш, што у пана
лета працаваў.
Гэта, мой ты дружа,
нам не пяршына.

Знаю я таксама
долю батрака, —
ты рабіў у пана,
я — у кулака.

Маюць людзі хлеба,
ўсё з палёў зьвязьлі —
мы з табой, мой дружа,
маем — мазалі.

Эх, ты доля, доля,
ну й жыцьцёвы шлях!
Па чужым так полі
з торбай на плячах.

Таболы. Восень 1937.

*Максім Танк*

## Цішыня дарог

Калі поўзала імглой падзёртай восень,
ручнікі іржышчаў зрэбна-шэрых моклі—
змоўклі
галасы людзей і коняй,
і напоеныя дзёгцем восі;

змоўклі польныя, скрыпучыя дарогі
ад сасновых ад парогаў і такоў,
праз мяцелі, гурбы лісьця залатога,
да чыгуначных рагатак гарадоў.

Цішыня расла, як вечная зарука
над малітвамі, над страхам, над пагрозай...
Можа
дзень адзін мінець болей,
зноў апусьцім на лапаты рукі.

Толькі песьню весялейшую цяпер-бы!
Можна гэту нават: пра апошні бой, —
каб, на межах, расахатыя нам вербы,
на дарогу заківалі галавой.

23.X.37.



# Да роднай і за родную асьвету!

Пытаньне асьветы ў Беларусаў зьяўляецца ўсьцяж вельмі важнай, аснаўной і ўсьцяж актуальнай праблемай. Нічога ў гэтым дзіўнага. Ад многіх стагодзьдзяў, дзякуючы палітычнай, нацыянальнай і соцыяльна-эканамічнай няволі народу, была яна занядбанай. Даўнейшая шляхоцкая Рэчпаспалітая Польшч, а пасьля падзелу яе, маскоўская акупацыя ў Беларусі ня рупіліся аб асьвеце шырокіх гушчаў народу ў сябе дзеля сваей клясавай палітыкі (з асьветы карысталі г. зв. вышэйшыя слаі грамадзянства), ня рупіліся тымбольш аб асьвету для беларускіх народных гушчаў, для простага беларускага народу. Цёмным, беспрасьветным народам лепш і лягчэй кіраваць і яго экспплёатаваць. І толькі ў 19-ым стагодзьдзі, у выніку рэвалюцыйных і дэмакратычных ідэяў, што нарадзіліся на заходзе Эўропы, пачынаюцца і ў Беларусі праявы ў напрамку палепшаньня сытуацыі ў галіне асьветы. Пачынаецца дэмократызацыя асьветы. Пранікаюць у народныя гушчы клічы: „асьвета для люду даканае цуду." Калі раней доступ да школы быў прывілеем г. зв. вышэйшых слаёў грамадзянства, калі ў школах ці дома маглі вучыцца толькі дзеці паноў абшарнікаў, магнатаў, шляхты і іншых прадстаўнікоў г. зв. панскае крыві,— у другой палавіне 19-га стагодзьдзя ў школу паволі пранікаюць і нялічныя шчасьлівуцы з працоўнае вёскі і з такога-ж працоўнага гораду, сыны сялянства і работніцтва.

Барацьба за школу, за асьвету для найшырэйшых кругоў грамадзянства і народу ад таго часу да апошніх год ставіцца, як адзін з перадавых праграмных пунктаў кожнай запраўды дэмакратычнай палітычнай партыі і арганізацыі, кожнай дэмакратычнай думкі. І беларускія палітычныя, грамадзкія і культурна-прасьветныя арганізацыі, незалежна ад іх кірунку, характару, асабовага складу, а таксама кожны чэсны і адданы справе народу ягоны сын, заўсёды памятуюць і працуюць для справы асьветы свайго народу. Апошнія дзесяткі гадоў беларускай гісторыі даказваюць гэта. Успомнім тут для прыкладу нашага народнага паэта Якуба Коласа, які за арганізаваньне нелегальнай пачаткавай беларускай школы быў царскімі расейскімі ўладамі жорстка праследаваны, асуджаны і ўрэшце апынуўся ў вастрозе. І многа было Беларусаў — такіх-жа ахвярных сыноў народу,— што цярпелі пры жорсткім царскім рэжыме за шырэньне і арганізацыю асьветы. У выніку вайны і рэвалюцыі стан асьветы ў Беларусаў нібы крыху паправіўся. Дзякуючы ахвярнай працы лепшых сыноў народу, як у Усходняй Беларусі, так і на тэрыторыі заселенай Беларусамі ў адроджанай Польшчы і Латвіі, паўстала цэлая сетка беларускіх школ. Але гэткі стан трываў толькі пару год і цяпер пасьля ліквідацыяў, рэформаў, „чысткаў" справа асьветы ў Беларусаў, як у Польскім Гаспадарстве, так у Савецкай Беларусі і ў Латвіі знаходзіцца йзноў у вельмі цяжкім палажэньні.

Ня гледзячы на ўсе няўдачы і перашкоды, пытаньне асьветы ў Беларусаў не павінна ніколі сходзіць з парадку дзеннага нашага беларускага нацыянальнага жыцьця. Памятуючы аб тым, што асьвета для народных масаў

„даканае цудаў,“ што асьвета дае шырокія магчымасьці да падняцьця народу на вышэйшы ровень інтэлектуальнага і культурнага, палітычнага і эканамічнага жыцьця, памятуючы так-жа аб тым, што асьвета ёсьць важным і аснаўным узгадаваўчым дзейнікам, адным з важных спосабаў урабляньня псыхікі народу ў пажаданым кірунку, — Беларусы павінны ўсей душой, з усім багажом свайго розуму й сэрца, аднесьціся да гэтай важнай праблемы нацыянальнага жыцьця.

Трэба ўсьцяж і ўсімі спосабамі дамагацца роднае школы, а перад усім трэба ўступіць на шлях пазашкольнае асьветы, на здабываньне асьветы хатнім, пры ватным спосабам. Гэты спосаб, гэткі шлях здабыцьця асьветы не супярэчны з існуючым правапарадкам у Польскім Гаспадарстве. Кожны, хто хоць крыху ўмее чытаць і пісаць, павінен сам далей вучыцца з беларускае кніжкі і другога вучыць, даючы яму ў рукі беларускі лемантар і кніжку. Беларуская асьвечаная моладзь, беларуская народная інтэлігенцыя, адным словам усе тыя, каторыя мелі шчасьце пазнаць кніжную веду, няхай навучаюць сваіх родных, блізкіх, сваіх суседзяў пабеларуску. Сотні і тысячы лепшых сыноў народу атрымалі і атрымліваюць асьвету гэткім спосабам. Сотні і тысячы лепшых сыноў народу, якія складаюць сяньня кадры народнай інтэлігенцыі, гэткім спосабам здабывалі і пазнавалі вартасьць навукі, вартасьць друкаванага слова, вартасьць кніжкі, і сталіся карыснымі працаўнікамі народу.

У шырокіх народных гушчах пакутуе няправільны пагляд, што быццам толькі ў школе можна атрымаць веду, што толькі праз школу можна стацца асьвечаным. Практыка жыцьця аднак паказвае, што ня вылучна ў школе атрымліваецца веда, што пры жаданьні, ахвоце, пры сыстэматычнай працы можна стацца граматным і нават вучоным, што можна разьвіць розум, сэрца і волю хатнім спосабам, прыватнай упорнай самаасьветай. Пры здабываньні асьветы гэткім спосабам, ня йграе тут спэцыяльна век кандыдата. Могуць гэткім спосабам здабываць асьвету і дзеці і дарослыя і ўжо старэйшыя. Абы жаданьне.

Асьвету трэба здабыць, і здабыць на нацыянальным беларускім прынцыпе, у духу беларускай нацыянальнай ідэолёгіі.

У беларускіх кнігарнях і складах кніжак ёсьць многа літаратуры. Ёсьць кніжкі з элемэнтарнай веды — лемантары — ёсьць кніжкі з агульнай асьветы і з асьветы ў галіне беларусазнаўства—гісторыя, географія, літаратура, эканоміка і т. д. Усё гэта трэба выкарыстаць пры самаадукацыі, пры вучэньні хатнім спосабам.

Настала восенская пара, а за ёй прыйдзе зіма, а там вясна. Беларус селянін мае вальнейшы час. Трэба яго скарыстаць на хатняе навучаньне.

* * *

Наш слаўны доктар Францішак Скарына, вялікі культурнік і гуманіст, шчыры дэмократ, першы друкар беларускі, і агулам на ўсходзе Эўропы, казаў у пачатку шаснаццатага стагодзьдзя:

„Усякаму чалавеку трэба чытаць, бо кнігі — люстра нашага жыцьця, лякарства для душы, пацеха ўсім смутным, найболей-жа тым, што ў бедах і ў трудах знаходзяцца.“

Гэты сказ найбольш адносіцца да народу беларускага, якому шмат трэба папрацаваць, каб палепшыць сваё гаротнае жыцьцё

Дык усе на шлях самаадукацыі, на шлях самаасьветы! Я. Ш.

# МАКСІМ БАГДАНОВІЧ

*(У 20-тыя ўгодкі сьмерці)*

Ужо 20 гадоў мінула ад таго часу, як адыйшоў ад нас у вечнасьць вялікі пясьняр Беларусі— Максім Багдановіч. Як мэтэор зьявіўся ён на беларускім небасхіле і зьнік. Зьнік у самым цьвеце гадоў. На'т ня прыйшлося яму памерці ў родным краі, на роднай зямельцы, якой аддаў ён усе свае сілы й здольнасьці. Страшная хвароба — сухоты забрала яго ад нас, не даючы зьдзейсьніцца тым надзеям, якія пакладала на яго ўся Беларусь.

Аднак ня ўвесь ён памёр. Частка яго душы жыве й будзе жыць паміж нас у вершах, якія ён пакінуў, як спадчыну па сабе, свайму Народу.

Возьмем у рукі „Вянок." Невялічкая кніжачка, у якой 98 вершаў. Гэта адзіны зборнічак яго, выданы асобна. Рэшта параскідана па розных часапісах беларускіх, расейскіх, украінскіх. Але ня ў ліку сіла! Сіла ў зьмесьце, сіла ў якасьці. І гэтым дарагі нам пясьняр.

Інтэлігенцыя і высокая адукаванасьць песьняра адчуваецца ў яго творах, дый ня толькі творах. Motto, узятыя з розных працаў заграннічных пісьменьнікаў у італьянскай, францускай, нямецкай, лацінскай і іншых мовах, сьведчаць аб яго разьвіцьці. Ён адчуў усю прыгожасьць зьместу, формаў у творах сусьветнай літаратуры й унёс шмат чаго ў літаратуру беларускую. Багдановіч сьвядома ўжывае ўсіх магчымых формаў сусьветнай паэзіі, як трыялетаў, тэрцінаў, квартаў, рондо, пэнтамэтраў, сонэтаў, актаваў і інш., а таксама стараецца вытварыць асобны род формаў беларускае народнае творчасьці.

Вершы яго апрацаваны надта старанна. Ня можна ў іх нічога ані адняць, ані дадаць, так добра яны закончаны. Яны зьвіняць у яго, як жалеза, як сталь.



**Максім Багдановіч**

Аб будове вершаў паэт казаў:

„Трэба з сталі каваць, гартаваць гібкі [верш.
Абрабіць яго трэба з цярпеньнем.
Як ударыш ты ім,—ён як звон зазьвініць
Брызнуць іскры з халодных каменьняў."

„Песьняру"

Але не адна форма, не адна апрацоўка гуляе галоўную роль.

Паводле ўнутранага зьместу мы бачым у Багдановічу паэтафілёзофа. Кожны ягоны верш мае ў сабе нейкую філёзофічную думку. Так, прыкладам, у сонэце „Паміж пяскоў Эгіпецкай зямлі" выяўляецца вера Багдановіча ў сваю Бацькаўшчыну. Ён бачыць вокам паэты-філёзофа яе вясну, верыць, што сіла адраджэньня яшчэ існуе, што яна ўзрасьце й буйна закрасуе, быццам тое зярнё, што праляжала тысячы год.

Але ці зможам перамагчы мы грамадзкае гора?—пытае Багдановіч у вершы „Краю мой родны.“ Ці хопіць сілаў зварушыць увесь Беларускі Народ? Ці зможа ён злажыць жыцьцё сваё ў ахвяры на аўтар вызваленьня?

І як-бы ў адказ на гэта піша ў наступным вершы:

„Рушымся, брацьця, хутчэй
Ў бой з жыцьцём, пакідаючы жах;
Крыкі пужлівых людзей
Ня стрымаюць хай бітвы размах...

Проці цячэньня вады
Зможа толькі жывое паплыць,
Хвалі-ж рэкі заўсягды
Тое цягнуць, што скончыла жыць.“

Ён верыць, што інтэлігенцыя споўніць сваё заданьне ў адраджэньні Бацькаўшчыны й ня здрадзіць, за катлеты, свайго Народу. Верыць, што Народ беларускі жыве й будзе жыць, што прыйдзе час, калі:

„У віхры уляціць палова
Пакіне чыстае зярно.“
(„Устань, навальніца.“)

Верыць, што згіне гора, а Беларусь будзе жыць!

Радзіўся М. Багдановіч у 1892 годзе. Жыў у Ніжнім Ноўгарадзе й Яраслаўлі, дзе бацька ягоны быў вучыцелям. Сярэднюю адукацыю скончыў тут-жа й паступіў у Яраслаўлі ў юрыдычны ліцэй. Жыў у цэнтры жыцьця расейскай інтэлігенцыі. Беларускую мову пазнаў з беларускіх кніжак. Пасьля сам пачаў пісаць вершы. Першы ягоны верш „Над магілай“ надрукаваны ў № 1 „Нашай Нівы“ у 1909 г. У 1913 г. выйшаў зборнік вершаў „Вянок.“ У 1911 і 1915 г. быў паэт у Вільні, а ў 1916 па сканчэньні ліцэю прыбыў у Менск. Але будучы хворым на сухоты, не перанёс ён цяжкае працы. Памёр у Крыме (Ялта) 25 мая 1917 г., куды выехаў лячыцца на просьбу сваякоў і знаёмых.

Памёр паэт... Сьмерць скасіла яго, як падцяты ў корані дуб. Хвароба й праца змаглі яго цела. Згас ён целам, але душа яго, адбітая ў вершах, будзе жыць, будзе прыпамінаць нам; што не бяздзейнасьцю, а працай Беларускі Народ здабудзе сабе лепшую долю.

**А. Я.**

*Натальля Арсеньнева*

## Асеньні вечар

Чырвоны блеск асеньні захад
Праз рэдкі кужаль хмараў цэдзіць,
Густы сасоньнік крые бляхай
З рудава-жоўтай, чыстай медзі.
Чырвона й сіне ў соснах гонных:
На мхі кладуцца пасмай цені
І горкі пах, лясны, сасонны
Ўстае з зямлі, як сон асеньні.
Яшчэ хвіліна і з гушчараў
Маўчком, жахліва выйдзе цемра,
Ўнізе, паміж камлёў няздарных,
Клубком разблытаецца шэрым,
Павісьне зрэб'ем нечасаным
Над лесам сьцішаным, над намі...
. . . . . . . . . . . . . .
О ноч, жывога дня нірвана,
Прыйдзі й таксама сьціш нас снамі.

# Ab vajennych hazach

U suśvietnaj vajnie (1914 — 18 h.) narody dajšli da takoha ździčeńnia, što nie mahli zdavolicca zvyčajnymi strelbami, kulamiotami, bambamiotami, dalokabojnymi harmatami, braniavikami i tankami, i chapilisia najstrašniejšaha aružža pad soncam—zabojčych hazaŭ, ad jakich hinie jak čałaviek, tak i skacina, a na't i raślinnaść. Kiraŭniki haspadarstvaŭ, dobra viedajučy niebiaśpieku hazaŭ, jašče ŭ 1899 hodzie, a paśla 1907 h.padpisali ŭ Haazie(Holandyja) mižnarodny dahavor, što ŭ vajnie nia možna ŭpatrablać śmiertanosnych hazaŭ. Adnak užo ŭ studni 1915 h. niemcy pieršyja, złamaŭšy haaski dahavor, puścili ŭ centralnaj Polščy haz na rasiejskaje vojska. Pieršaja proba nie ŭdałasia, ale heta nie źnieachvociła pačynalnikaŭ i ŭ krasaviku taho-ž hodu zaatakavali jany chloram na zachodnim froncie 12.000 francuskich kanadyjcaŭ, z jakich za 5 dzion vyžyła tolki 2000. Paśla na ŭschodnim froncie niemcy vytrucili za adnu ataku 11 tysiač rasiejskaj armii.

Paśla hetkich niamieckich pačynańniaŭ, pačali ab hetym dumać francuzy, anhlijcy, amerykancy, rasiejcy, i—słovam — uvieś vajujučy śviet. I ŭ 1916 h., kali niemcy dumali za adnym zamacham raźbić francuzaŭ i zabrać Paryž, francuzy pačastavali niemcaŭ adnym z najstrašniejšych hazaŭ — **fosgenam.** I niamieckaja ataka nie ŭdałasia.

Naahuł u suśvietnaj vajnie źhinuła ad hazaŭ 506,729 čałaviek, što vynosić 28 prac. ahulnaj straty ludziej, aproč taho, kala 200,000 astałosia kalekami. Na vielič hetych cyfraŭ upłyvaje toje, što haz, puščany na danuju akolicu, zatručyvaje abo kalečyć usich, tady kali ad kulaŭ hinuć pieravažna tolki vajskovyja.

Pad kaniec vajny navučylisia ŭžo ludzi baranicca ad hazaŭ i śmiarotnaść pamienšała.

Śpiarša hazy puščali prosta z bankaŭ i jon (haz) chvalami niośsia pa vietru na voraha, a paśla pačali napampovyvać hazami harmatnija kuli, jakija razarvaŭšysia pamiž niapryjacielami, zatručvali ich. Taksama hazy ŭ bombach razvozilisia aeroplanami. U apošniaj vajnie zastasavana ŭžo 60 roznych hazaŭ, a siahońnia jość ich bolš 350, pry hetym kožnaje haspadarstva starajecca mieć jak najbolš svaich sakretnych hazaŭ, kab vorah, nia viedajučy jaho składu, nie pryhatavaŭsia da abarony.

Atrutnymi ciełami hazaŭ źjaŭlajucca chlor, brom, čad, sierka i arsen. Usie zabojčyja hazy dzielacca na čatyry katehoryi: 1. udychalnyja, 2. padražniajučyja, 3. skurnyja, 4. ahulna dziejučyja.

1. Udychalnyja abo ŭdušnyja ha-



Niemcy ŭ akopach u časie suśvietnaje vajny.

zy dziejać škodna na dychalnyja darohi i vyklikajuć dušnatu, raźjadajuć ślizistuju pavałoku vusnaŭ, nosu, horła, vočaŭ i davodziać da zapaleńnia lohkich. Da hetaj hrupy naležać: chlor, pary bromu i jodu, fosgen, dvufosgen, bromofosgen, chloropikryna, suviazi azotu i inš.

enerhična viažucca sa skuraj čałavieka, abparyvajuć jaje i zatručyvajuć uvieś arhanizm. Najhałaŭniejšym tut hazam jość **iperyt**, najstrašniejšaja trucizna z u ich, jakija śviet viedaje. Jość heta alejnaja, bieskalornaja płyń, jakaja nadta pavoli paruje i pa ŭstaŭšyja hazy niščać skuru, ślizistyja



**Ratunkovaja akcyja paśla hazavaj ataki ŭ Hišpanii.**

2. Padražniajučyja hazy dziejać na vočy i vyklikajuć śloznaść, čuchaŭku, vanity i kašal, aproč hetaha dušać i palać ślizistuju pavałoku. Naležać tut suviazi cyjanu, bromaceton, chloraceton, kainit, aldehyd allylovy i šmat inš.

3. Skurnyja hazy heta pieravažna pary płyniaŭ, jakija nadta

pavałoki i chutka zatručyvajuć uvieś arhanizm. Padobna dziejać kadenit, luizyt i cely rad inšych hazaŭ.

Hazy ahulnyja, jak napr. kvas pruski, čad, dziejać zabojča na ŭvieś arhanizm. Zastasavańnie majuć mienšaje, čymś napr. iperyt abo fosgen.

Abaranicca ad hazaŭ jość rečaj nadta trudnaj, bo płyni palać adziežu, a paŭstaŭšyja hazy abo prosta ŭsasyvajucca praz rany ŭ arhanizm, abo my ich udychivajem: u adnym i druhim prypadku hazy dziejać zabojča. Dziela hetaha treba mieć prociŭhazavyja maski, jakija nie prapuskajuć hazu, humovuju adziežu i dzieravianiki. Pry hetym treba viedać, što pary hazaŭ pieravažna ciažejšyja za pavietra i sabirajucca ŭ miascovaściach nizkich. Pry atacy z hazami najlepš uźniacca na hory, abo ŭźleźci na vysoki budynak ci dreva.

Atrutnyja hazy, jak było ŭžo skazana, źjaŭlajucca sapraŭdy najstrašniejšym aružžam. Hazami miž inšym pieramahli Italijancy Abisyncaŭ i zavajavali ichni kraj. Apošnim-ža časam hazy byli ŭžyty ŭ chatniaj vajnie ŭ Hišpanii, a taksama na Dalokim Uschodzie, dzie Japoncy prabujuć užo zmahacca z kitajcami pry pomačy hazaŭ. Dr. J. M.

# Całaviek nikoli nia ŭmiraje

## Što kaža vialiki anhlijski vučony prafesar Morley Martin

Navuka i kultura ŭściaž jdzie napierad. Całaviek, adkryvajučy tajnicy pryrody, starajecca taksama dakładna daśledzić, skul uzialisia na ziamli ludzi i ahułam žyvioła i raśliny.

Chryścijanskaja navuka pytańnie heta raźviazała daŭno i ćvierdzić, što całavieka stvaryŭ Boh— istota nadpryrodnaja, mahutnaja, razumnaja — ŭładar nieba i ziamli. Daŭ Jon, pry tym, całavieku rozum, volnuju volu i nieśmiarotnuju dušu. Heta znača, što całaviek, umirajučy ciełam, nia ŭmiraje ducham, a žyvie dalej žyćciom viečnym, pazahrabovym.

Ale jość ludzi, jakija nia chočuć z hetkim ćvierdžańniem zhadzicca i da ich, miž inšym, naležyć vialiki vučony pryrodnik Darvin (anhlijec), katory vydumaŭ teoryju evalucyi (raźvićcia). Jon ćvierdziŭ, što na ziamli ŭsio raźvivałasia vielmi pamału, pastupova, i što całaviek pachodzić ad naŭpy (nałpy — abieźjany).

Inšyja vučonyja daśledčyki raźvićcia pryrody na ziamli i całavieka źbivali i dalej źbivajuć darvinaŭskija pahlady. Da hetaj hrupy vučonych naležyć, miž inšymi, vialiki sučasny anhlijski vučony bioloh prafesar Morley Martin. Charakterna, što całaviek hety źjaŭlajecca samavukam i dahetul maje ŭžo apatentavanych 90 svaich vynachadaŭ. M. Martin zmušany kanieśnaściaj zarablać sabie na chleb, pracavaŭ ad małych dzion, adnačasna pilna vučyŭsia i kiravaŭ svoj rozum da novych vynachadaŭ. Zdabyŭ jon sabie vialikuju słavu fenomena fizyki, a vynachady jahonyja zapeŭnili jamu dabrabyt i mahčymaści dalejšaje płodnaje pracy na navukovaj nivie.

Niadaŭna ŭ francuskim časapisie „Marianne" apublikavana była vielmi cikavaja hutarka Charlesa Ricarda z praf. M. Martin'am ab całavieku i jahonym žyćci. Voś-ža praf. Martin, na asnovie svaich dośledaŭ ćvierdzić, što całaviek nikoli nia ŭmiraje; žyćcio jość nieźnistažalnym i nia maje, jak čas i prastor, ani pačatku, ani kanca. Žyćcio prabyvaje časam u stanie ŭkrytym.

Na pytańnie, jakoje stanovišča hety vučony zajmaje adnosna Darvinaŭskaj teoryi evalucyi, praf. Martin adkazaŭ: „Darvin jość najvialikšym durakom, jakoha znaje śviet".

Adnak i ćvierdžańnie praf. Martin'a šmat chto ŭvažaje pamyłkovym, a jak u sapraŭdnaści jość, heta pakažuć dalejšyja navukovyja dośledy. *J—k.*

## U BIEŁARUSKICH STUDENTAŬ

**Pačatak akademickaha hodu ŭ BSS.** Za prykładam minułych hadoŭ, u Biełaruskim Studenckim Sajuzie ŭ Vilni 23-ha kastryčnika sioleta adbyłosia ŭračystaje raspačaćcie akademickaha (studenckaha školnaha) 1937-38 hodu. Pieršy pramaŭlaŭ staršynia BSS stud. Ad. Dasiukievič, katory, pryvitaŭšy prysutnych, źviarnuŭ uvahu biełaruskaha studenctva na patrebu pracy nia tolki navukovaje, ale taksama i hramadzkaje biełaruskaje, zaklikajučy da ciaśniejšaha supracoŭnictva ŭ Biełaruskim Studenckim Sajuzie, na karyść Biełaruskaha Narodu i dziela ździejśnieńnia jahonych najvialikšych imknieńniaŭ.

Paśla čytaŭ referat stud. M. Ščors. Nia viedajem, ci źmiest referatu M. Ščorsa byŭ viedamy ŭradu BSS. U kožnym razie takija referaty na ŭračystym viečary jošć niedapuščalnymi. Biełaruski Studencki Sajuz jošć arhanizacyjaj ahulnabiełaruskaj, biespartyjnaj, u im łučycca moładź roznych pahladaŭ i kirunkaŭ i dziela hetaha na aficyjalnych uračystych sabrańniach musiać być referaty i pramovy, jakija łučyli-b studenckuju moładź u adnu maładuju biełaruskuju siamju. Tymčasam referat M. Ščorsa, pierasyčany fašystoŭskim ducham, byŭ skiravany nia tolki suproć usich badaj biełaruskich studentaŭ, jakija ahułam trymajucca pryncypaŭ demakratyčnych, ale taksama suproć starejšaha hramadzianstva, katoraje, za vyniatkam paru nacyjanał-sacyjalistaŭ, jdzie da palepšańnia bytu Biełaruskaha Narodu, da jaho lepšaje doli i voli, šlacham demakratyčnym. M. Ščors, atrymaŭšy lohka rolu haloŭnaha pramoŭcy na viečary, pačuŭsia navat na hetulki mocnym na siłach, što prabavaŭ raspraŭlacca ahułam z demakracyjaj. Śmiešnyja, praŭda, byli hetyja sproby i natuhi, adnak fakt, što jany byli na ŭračystym viečary da śmiechu nie pabudžaje, a naadvarot, vyklikaje vielmi niapryjemnaje ŭražańnie. Referat M. Ščorsa, moh być pračytany ŭ BSS, ale na dyskusyjnym viečary. Taki referat vyklikaŭ by vialikuju dyskusiju, tym bolš, što ŭ im byli parušanyja i aktualnyja spravy, jak napr. apošnija padziei ŭ Savieckaj Biełarusi, za jakimi z tryvohaj śladzić usio biełaruskaje hramadzianstva. A dyskusii studenckaj moładzi patrebnyja, u ich moładź vyrablaje svaju ideolohiju, hartujecca i šmat tady što vyjaśniajecca. Hetulki ab referacie.

Dalej adbyvalisia deklamacyi tvoraŭ biełaruskich paetaŭ. Deklamavali studentki: Suchaja i Čarneckaja. Urešcie Maksim Tank, pryvitany hučnymi vopleskami, pračytaŭ try svaje vieršy, z jakich adzin pryśviačany biełaruskaj moładzi. Na zakančeńnie prysutnyja adśpiavali biełaruski narodny himn.

**I ministerstva zabaraniła biełaruskim studentam nasić dasiulešnija šapki.** Sioleta, jak viedama, vilenskija administracyjnyja ŭłady nie dazvolili biełaruskim studentam-siabrom Biełaruskaha Studenckaha Sajuzu nasić dasiulešniaj formy šapki hetaj arhanizacyi. Urad BSS ad zahadu vilenskich uładaŭ adkliknuŭsia ŭ ministerstva, ale i adtul nadyjšoŭ adkaz admoŭny.

**Prypłyŭ novych siabroŭ u B. S. S.** U suviazi z pryjmom novych studentaŭ na vilenskim universytecie, u Biel. Stud. Sajuz ustupajuć novyja siabry. Pry tym jošć kandydaty nia tolki z b. vučniaŭ biełaruskaje himnazii, ale taksama j z himnazijaŭ polskich.



# Što čuvać?

Najbolšaj sensacyjaj apošnich dzion u **Polščy** jość deklaracyja „Strzelca“, „Harcerstwa“ (skaŭtaŭ), „Związku Młodej Wsi“ (ZMW) i „Organizacji Młodzieży Pracującej“ (OMP) ab tym, što stvaryli jany supolny front. Usie hetyja arhanizacyi polskaje moładzi znachodziacca pad upływam sanacyi, adnak stanoviać jany jejnaje levaje demakratyčnaje kryło, jakoje vyrazna pačynaje vystupać prociŭ akcyi pałk. Koca, OZoNu i asabliva suproć „Związku Młodej Polski“, katory chilicca ŭ staranu endecyi, pierajmajučy nacyjanalistyčnuju ideolohiju i endeckija metody pracy. Na čale henaha prociŭozonaŭskaha frontu moładzi staić staršynia skaŭtaŭ vajavoda Grażyński, ab jakim chodziać navat čutki, što maje być premjeram novaha ŭradu, bo ciapierašni ŭrad, byccam, padasca ŭ adstaŭku. „Strzelec“, skaŭty, ZMW i OMP u svajej deklaracyi zajavili, što jany stajać na hruncie ideolohii Maršała Piłsudzkaha, adnak źmiest ichniaj deklaracyi raźminajecca z deklaracyjaj ozonovaha „Związku Młodej Polski“, jaki taksama havoryć, što jon idzie šlacham Maršała Piłsudzkaha. Heta śviedčyć, što ŭ sanacyjnym abozie razłom pahłyblajecca. — 24.X u Varšavie adbyŭsia źjezd prafesyjanalnych sajuzaŭ, jakija znachodziacca pad upływam PPS i pasiedžańnie hałoŭnaje Rady „Stronnictwa Narodowego“ (endecyi). Jak prafesyjanalnyja sajuzy, tak i endecyja adnosna ŭradu i sučasnaha režymu zaniali stanoviščа apazycyjnaje. — Niadaŭna ŭ Varšavie paŭstaŭ Demakratyčny Klub, metaj jakoha jość abjednać usich polskich demakrataŭ, pačynajučy ad sanacyjnaje levicy, a kančajučy na PPS i „Stronnictwie Ludowym“. Častkava heta ŭžo ŭdajecca, bo ŭ Demakratyčnym Klubie vobak sanataraŭ zasiadajuć razam pradstaŭniki PPS i „ludoŭcaŭ“. Strašyć heta pieradusim endecyju, kanservatystaŭ-abšarnikaŭ i pravaje kryło sanacyjnaha abozu.

Bunt **Arabaŭ u Palestynie,** nia hledziačy na pacyfikacyjnuju akcyju ahlijskaj palicyi, ŭściaž rassyrajecca. Duchovy pavadyr Arabaŭ,



Vialiki Mufti Jeruzolimy Emin Husseini (vyšej na fatahrafii), katoraha palicyja chacieła aryštavać, uciok u Syryju i adtul kiruje buntam, zaklikajučy da baraćby z Anhlijcami i Žydami Arabaŭ z inšych krain. Na miescy ŭ Palestynie hałoŭnym arhanizataram teroru i sabatažu jość Franzi Kavadji, jakoha palicyja nijak nia moža złavić, a jaki šmat užo narabiŭ hłumu. Araby pieradusim uzryvajuć i palać uradavyja budynki, teraryzujuć palicyju, a niadaŭna pierarezali i zapalili nafciany ruraciah, praviedzieny z Iraku praz Palestynu ŭ partovaje miesta Haifu.

U Londynie na mižnarodnaj kanferencyi havorać usio, jak ad-

klikać achvotnikaŭ z roznych krajoŭ, katoryja pryjmajuć udzieł u chatniaj vajnie ŭ **Hišpanii.** A tymčasam paŭstancy, pry pomačy italijancaŭ i niemcaŭ, pasoŭvajucca dalej i zabrali m. Gichon. Mima hetaha, prezydent Katalonii Kompanys zajaviŭ, što ŭ Hišpanii pieramoža narod i demakracyja, a nie fašysty z hien. Frank'am.

**Na Dalokim Uschodzie** baraćba nia ścichaje. Japonija arhanizuje ŭžo na zaniatych kitajskich ziemlach novaje svajo „aŭtanomnaje" kitajskaje haspadarstva Manholiju i ni z kim nia choča havaryć. Navat adkazałasia pryniać udzieł u kanferencyi ŭ Brukseli, dzie zainterasavanyja na Dalokim Uschodzie haspadarstvy majuć razhladać spravu japonska-kitajskaj vajny i šukać sposabaŭ spynieńnia jaje. Kitajcy atrymlivajuć byccam pomač z Ameryki i SSSR i dalej baroniacca, choć jak pišuć hazety, stracili jany ŭžo kala 1 milijona žaŭnieraŭ, jakija zhinuli abo ranienyja na froncie.

U **SSSR** idzie padhatoŭka da vybaraŭ u „Vierchovnyj Soviet" (parlamant), jaki maje paŭstać zhodna z novaj Stalinskaj kanstytucyjaj. Vybary naznačanyja na 12.XII.1937 h.

J. N.

## Spynili „Vilniaus Rytojus"

Apošnimi dniami na prapanovu polskich administracyjnych uładaŭ Vilenski Akružny Sud spyniŭ litoŭski časapis „Vilniaus Rytojus" u Vilni.

„Vilniaus Rytojus" vychodziŭ dva razy ŭ tydzień ad 1926 hodu, spatkaŭ-ža jaho los taki samy, jak „Biełaruskuju Krynicu, katoruju taksama sioleta Sud spyniŭ.

Niekalki miesiacaŭ tamu nazad u hetki-ž sposab byŭ spynieny časapis litoŭskaje moładzi „Jaunimo Draugas". Niadaŭna sprava heta była razhladana ŭ Sudzie, jakı pastanovu pieršaje instancyi skasavaŭ. Prakuror adnak padaŭ apelacyju i časapis hety dalej nia vychodzić.

Nia majučy svajho časapisu, moładź litoŭskaja vydaje kožny miesiac bahata ilustravanyja i z cikavym, roznarodnym źmiestam adnadnioŭki.

## Прыгожы пастунак жыдоўскай моладзі

18-га кастрычніка сёлета ў Рэдакцыю „Шляху Моладзі" зьявілася дэлегацыя жыдоўскае вучнёўскае моладзі аднае жыд. сярэдняе школы ў Вільні з наступнай заявай:

Мы—казалі яны— даведаліся, што ў Беларусаў ёсьць многа незаможнае вучнёўскае моладзі, якая ня мае з чаго жыць і вучыцца. Вось-жа моладзь нашае школы, адчуваючы гэта, злажыла з сваіх скромных сумаў 7 зл. і 50 гр. якія мы прынясьлі Вам і просім сьціраваць гэтыя грошы на дапамогу беларускай вучнёўскай моладзі.

Пастунак жыдоўскае вучнёўскае моладзі сапраўды прыгожы, мілы і мае вялікае маральнае і грамадзкае значэньне.

Такі пастунак астанецца доўга ў памяці, тым-больш, што здарыўся ён у час для Беларусаў сапраўды цяжкі. Беларуская моладзь сапраўды знаходзіцца ў цяжкім палажэньні і патрабуе помачы.

Маладым жыдоўскім ахвярадаўцам складаем шчырую падзяку. Аб іхным прыгожым пастунку моладзь беларуская будзе памятаваць.



# ХРОНІКА

## З БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ

— Адкрыцьцё памятніка Ядвігіну Ш (Антону Лявіцкаму), каторы ўжо стаіць над магілай паэта на Віленскіх могілках Роса, адбудзецца, як мы ўжо пісалі, 2 лістапада сёлета а гадз. 16-тай (4-тай па пал.). Пасьля, а гадзіне 19-тай у залі БНА (Завальная 1) адбудзецца вечар-акадэмія, прысьвячаны памяці Ядвігіна Ш., ад сьмерці якога мінула сёлета 15 год.

Праграма вечару наступная: 1) Уступное слова, 2) Рэфэрат мгр. Я. Шутовіча аб Ядвігіне Ш. і 3) Дэклямацыі. — Уход вольны і бясплатны.

І Міністэрства забаранiла. Летась 2 сьнежня Віленскі Гарадзкі Стараста спыніў дзейнасьць Таварыства Беларускай Школы, а 4-га сьнежня гэты самы лёс спаткаў Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры. Абедзьве арганізацыі ад гэтае пастановы ў час адклікнуліся да ўладаў Ваяводзкіх, якія аднак пастанову Старастві пацьвердзілі. Тады прадстаўнікі спыненых арганізацый зьвярнуліся ў Міністэрства Унутраных Спраў, якое паведаміла анагдай заінтэрэсаваных, што й яно зацьвярджае пастанову падуладных сабе органаў. гэта знача пакідае ўспомненыя арганізацыі бяз права якой-небудзь дзейнасьці.

На наш пагляд, арганізацыі гэтыя павінны адклікацца йшчэ да апошняе інстанцыі— Найвышэйшага Адміністрацыйнага Трыбуналу.

— Суд за „Zasieйki". 20.X сёл. меўся быць суд над грам. С. Паўловічам, аўторам беларускага лемантара „Zasieйki", які Віленскія адміністрацыйныя ўлады сканфіскавалі. Абаронца адв. Бр. Аляхновіч паставіў аднак дамаганьне, каб пракурор выразна сформулаваў, што ў тэксьце лемантара ёсьць праступнага і міма супраціўленьня пракурора Суд прызнаў дамаганьне абароны слушным і расправу адлажыў да часу, пакуль пракуратура перарэдагуе акт абвінавачаньня.— А дзеткі беларускія тымчасам лемантара ня маюць.

— Лекцыя аб бел. кніжцы. 21.X.37 г. у Вільні ў будынку унівэрсытэцкай бібліятэкі, на паседжаньні Саюзу Польскіх Бібліятэкароў грам. М. Пяцюкевіч прачытаў рэфэрат на тэму: „Беларуская кніжка ў межах Рэчыпаспалітай", у якім даў гістарычна-статыстычны агляд беларускіх друкаў, выданых у нашым краі ад пачатку беларускага адраджэньня да 1926 году. Зацікаўленьне рэфэратам было вялікае, аб чым сьведчыў лік прысутных і доўгая рэчовая дыскусія.

— Новы беларускі духоўнiк. 17-га кастрычніка сёл. ў Львове атрымаў сьвячэньні на каталіцкага духоўніка ўсходняга абраду малады беларус Леў Гарошка, які сёлета кончыў вышэйшыя навукі заграніцай у Аўстрыі. — Многая лета!

— Забаранілі. Браслаўскае паветавае староства забараніла ведамаму беларускаму пісьменьніку ксяндзу Яз. Гэрмановічу, законьніку — Мар'яніну жыць у галоўным кляштары мясцовых Мар'янаў у мястэчку Друя, якое знаходзіцца ў гэтак званай прыграничнай паласе.

— Сьвяшч. А. Каўша перамясьцілі ў другі прыход. Ведамы беларускі дзеяч а. Александар Коўш, апошнія гады быў настаяцелем у праваслаўным прыходзе ў Ласіцы (Пастаўскі павет). Гаварыў ён там казаньні пабеларуску і здабыў у народзе славу. Камусьці аднак гэта не падабалася і а. Каўша перамясьцілі ў другі глухі прыход..

— „Снапок" паменшаў. Сёлета, як ведама, Праваслаўная Мітраполія ў Польшчы пачала выдаваць пабеларуску часапіс для дзяцей п. н. „Снапок", які ўмела рэдагуе ведамы беларускі пэдагог грам. С. Паўловіч. „Снапок" дагэтуль выходзіў абыймом 16 бачын, разьмеру васьмёркі. Апошнія аднак нумары 5 і 6 выйшлі чамусьці меншымі, толькі па 8 бачын. Пажадана, каб часапіс гэты, сапраўды вельмі карысны і патрэбны выходзіў надалей нармальна з 16 бачынамі. Беларусы-ж часапіс гэны павінны падтрымліваць, выпісваючы і пашыраючы сярод беларускіх праваслаўных дзетак. Адрыс рэдактара С. Паўловіча: Вільня, Папоўская вул. 9—4.

— Лекцыя ў Б. Н. Т. 26.IX сёлета ў Беларускім Навуковым Таварыстве ў Вільні адбылася лекцыя мгр. М. Шкялёнка на тэму: „Падзел гісторыі Беларусі на пэрыяды".

— Сход Беларусаў-Каталікоў. 17 г. м. адбыўся гадавы сход Віленскіх Беларусаў-Каталікоў. Сход абгаварваў плян працы ў касьцельным жыцьці на наступны год. Між іншымі справамі, пастаноўлена аднавіць Беларускі Касьцельны Хор, які ў апошнім паўгодзьдзі прыпыніўшы быў сваю дзейнасьць.

— Спынілі дзейнасьць. У м-цы кастрычніку сёлета польскія адміністрацыйныя ўлады спынілі дзейнасьць у прыгранічнай паласе Беларускае Нацыянал-Сацыялістычнае Партыі.

## USIAČYNA

— Časapis polskich vučycialoŭ padaje, što ŭ Polščy z pryčyny niedastatku školaŭ štohod astajecca 80 tysiač dziaciej biaz školy — analfabetami. Apratča taho kala 300 tysiač dziaciej astajecca poŭanalfabetami, što kančajuć viaskovyja adnaklasoŭki. Tymčasam u minułym hodzie nasielnictva Polščy prapiło 357 milijonaŭ zł., a prakuryła 470 milijonaŭ zł. Na aśvietu ŭ hetym-ža časie vydana tolki 411 milijonaŭ zł.

— Jak padaje „Gaz. Polska" № 279, u Gdyni 6.X sioł. sud zasudziŭ redaktara kašubskaha časapisu „Zrzesz Kaszebsko" na 9 miesiacaŭ aryštu za artykuł „Gdańsk, nasz soleczni grad". — Časapis hety vydajuć kašubskija intelihienty-niezaležniki.

— Za čas ad 1.I.1937 da 1.IX.1937 h., pavodle ŭradavaha italijanskaha paviedamleńnia, u Abisynii zhinuła 2357 italijancaŭ. Apratča taho šmat zhinuła čornych italijanskich askarysaŭ. Cikava pry tym, kolki zhinuła italijancaŭ u časie apošniaha buntu abisyncaŭ (u m-cy kastryčniku), katory byccam italijancy zdušyli, ale chiba nie na doŭha...

— Cudam pryrody nazyvajuć skału ŭ Amerycy, jakuju bačym nižej na źnimcy.



Skała heta pad dziejańniem daždžu i vietru, sapraŭdy, pryniała dziŭnuju formu.

— Časapis „Zaczyn" (№ 41) na asnovie statystyčnych dadzienych u artykule „Vyžšaje školnictva" razhladaje, miž inšym, nacyjanalny skład studentaŭ u Polščy. Dadzienyja adnosiacca da 1934-35 hodu i pavodle ich u henym hodzie było ŭ Polskim Haspadarstvie 48,071 studentaŭ. Pavodle rodnaha jazyka palakoŭ było 41,360, ukraincaŭ — 1,434, **biełarusaŭ — 198**, žydoŭ — 3,339, niemcaŭ — 550, litoŭcaŭ — 118, inšych — 1,072. Na naš pahlad, faktyčnaha nacyjanalnaha padziełu studentaŭ ličby hetyja nie ilustrujuć i ŭvažajem, što studentaŭ biełarusaŭ u Polskim Hasp. jość bolš. Pry tym ličby hetyja davoli dziŭna i cikava vyhladajuć pry paraŭnańni ich, u pracentach, z likam žycharoŭ Polskaha Hasp. pavodle rodnaha jazyka na padstavie apošniaha (z 1931 h.) śpisu nasielnictva. I tak studentaŭ palakoŭ majem 86,1 prac. tady kali Palaki ŭ sučasnym svaim haspadarstvie stanoviać 68,9 pracentaŭ nasielnictva, ukraincaŭ-studentaŭ — 2,9 prac., tady kali Ukraincy stanoviać 10,1 prac., biełarusaŭ-studentaŭ majem 0,4 prac., tady kali navat pavodle apošniaha śpisu Biełarusy stanoviać 3,1 prac. usiaho nasielnictva Polskaha Haspadarstva, žydoŭ-studentaŭ 6,9, tady kali Žydy stanoviać 8,6 prac. nasielnictva i h. d. Pavodle vieravyznańnia pravasłaŭnych studentaŭ jość 2,6 prac., ahułam-ža pravasłaŭnaje nasielnictva ŭ Polskim Hasp. stanović 11,8 prac. usiaho nasielnictva. Z usiaho hetaha vidać, što najbolš jość studentaŭ-p a l a k o ŭ. Ab pryčynach hetaha možna było-b pisać šmat, ale sprava heta dalikatnaja i treba jaje astavić na paśla...

— U Polščy jość mnoha roznych hramadzkich arhanizacyjaŭ, adnak tolki mały z ich lik žjaŭlajecca samastojnymi, a bolšaść karystaje pieravažna z vialikich dapamohaŭ z haspadarstviennych („państwowych") kasaŭ. Niadaŭna padaŭ da publičnaha viedama spravazdaču z svaje dziejnaści „Wołyński Związek Młodzieży Wiejskiej", jaki pieravažna pracuje siarod ukraincaŭ z takoj samaj metaj, jak u nas „Związek Młodej Wsi", „Katolickie Stowarzyszenie Młodzieży" i inš. polskija arhanizacyi, katorych hałoŭnym imknieńniem jość pašyrać i zamacoŭvać polščynu. Voś-ža heny „Związek" ad 1.IV.1936 h. da 31.III.1937 h. atrymaŭ 20,860 zł. dapamohaŭ. Atrymlivajučy hetkuju dapamohu možna pracavać...

— U Eŭropie jość 33.188 kinaŭ.

— U Nju-Jorku (Ameryka) jość 762 školy, u jakich vučycca 1,225,000 vučniaŭ.

— Niadaŭna, u časie katastrofy ciahnika kala Paryža žhinuła 8 asob i 50 ranieny. U Rumynii ŭ Cincea ŭ časie katastrofy ciahnika 10 asob žhinuła i 22 ranieny.

Pierasyłka apłačana ryčałtam Cana numaru 15 hr.

## PRAKTYČNYJA RADY

**Ježmo morkvu.** Navukovyja dośledy ščvierdzili, što morkva pobač z špikam i sałataj jość najbolš pažyŭnym i najzdaraviejšym praduktam. Pry tym syraja morkva dla arhanizmu zdaraviejšaja.

**Jak nistožyć kłapoŭ.** Dla nistožańnia kłapoŭ (pluskvaŭ, ci błaščycaŭ) jość mnoha srodkaŭ, ale jany dla vioski zadarahija. Dziela hetaha padamo tut adzin srodak tanny i dobry. U 1 litry haračaj vady treba raspuścić poŭkilahrama soli i hetym rastvoram mazać miesca, dzie jość kłapy. Ad hetaha nia tolki hinuć kłapy, ale j ichnija zarodki.

**Što rabić, kab naftovaja lampa jasna śviaciła.** Kab lampa jasna śviaciła, treba jaje pieradusim čas-ad-času vymyć i niedapuskać da taho, kab jana pažoŭkła ad brudu, bo kali nalivajem u jaje naftu,—to jana pa niejkim časie prybiraje žoŭtavaty koler. Kab-ža lampa nie davała niapryjemnaha zapachu (nia čadziła)—novy knot pierad užyćciom treba namačyć u voccie i vysušyć, a paśla davać ul ampu.

## PAŠTOVAJA SKRYNKA

Z. Kinčancy: Vierš słaby, nia vytrymany ŭ im rym i rytm. Nia možna tak-ža śpievu sałaŭja paraŭnoŭvać da zvonu. Piara adnak nia kidajcie. Čytajcie bolš bieł. knižak i pišycie čaściej.

B. Bandarevíču: „Šlach Moładzi" vysyłajem Vam akuratna. Damahajciesia na pošcie.

Ф. Вайцілёнку: Верш „Мае думкі"паправіўшы надрукуем. „Я ня веру" слабы і да друку не падходзіць. Просім пісаць часьцей.

А. Гацуры: Вершы з 14.X.37 слабаватыя, але ў меру магчымасьці будзем стараццa папраўляць і друкаваць.

Грыгору Нейчыну: Артыкул атрымалі і ахвотна надрукуем у наступным нумары, бо ў гэты ўжо было запозна. Просім пісаць часьцей.

Каровапасу: Карэспандэнцыю надрукуем у наступным нумары. Заказ на кніжкі і грошы перадалі кнігарні „Пагоня". „Шлях Моладзі" высылаем Вам акуратна, дамагайцеся на пошце.

A. Buśku: „Šlach Moł." budziem vysyłać. „Praleski" nia vychodzili, ale dalej jznoŭ majuć vychodzić.

## Krychu śmiechu.

**Niama roźnicy.**

— Jakaja jość roźnica miž kinam i vajnoju?

— Nu?

— Niama nijakaj, bo ŭ kinie i na vajnie najlepšaje miesca zzadu...

**U škol».**

— Nu što, Jurka, nia možaš adkazać na pytańnie? Ci-ž jano takoje ciažkaje?

— Nie, panie vučyciel. Pytańnie lohkaje, ale adkaz ciažki.

***

Mały Ryśka pryjšoŭ da svajho kalehi Vićki pahulać; kali-ž vychodziŭ, matka Vićki, bačačy pad vokam Ryśki siniaka, kaža:

— Dziciatka, jak-ža-ž ty vyhladaješ? Dzie-ž ty hetki siniak nabiŭ?

A Ryśka joj na heta:

— Niachaj pani pahladzić na svajho syna, jon maje až try siniaki.





*Часапіс рэдагуе Рэдакцыйная Калегія.*

*Друкуецца ў Беларускай Друкарні ім. Фр. Скарыны ў Вільні (Завальная 1-2) коштам працы: Я. Багдановіча, Я.Найдзюка і А. Шутовіча.*

Выдавец: „БЕЛПРЭС". Рэдактар Я. НАЙДЗЮК